Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
В.а. галоўнага рэдактара
і заснавальнік Павел Жук
Выдавец – рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, г.Мінск,
вул. Змітрака Бядулі, 6-47.
Тэл/факс: 236-89-40

# НАВІНЫ



Пятніца, 5 лютага 1999 г. | № 13 (544) | Кошт свабодны

## Шарамет стаў выязным

**У Беларускай асацыяцыі журналістаў у сераду адбылася прэзэнтацыя кнігі «Справа № 4. Працэс у Ашмянах», у якой сабраныя матэрыялы суда над тэлежурналістам Паўлам Шараметам і апэратарам Зміцерам Завадскім.**

Прыгадваючы ашмянскія падзеі, Шарамет заявіў журналістам, што, нягледзячы на атрыманы прысуд, ён расцэньвае вынік працэсу ў Ашмянах як перамогу. *«Гэта была нашая сумесная маральная перамога над дыктатурай і яе глупствам»*, — упэўнены Павел Шарамет.

Як мы ўжо паведамлялі, цяпер Павел Шарамет працуе кіраўніком сеткі ўласных карэспандэнтаў ОРТ і Беларусь наведвае не часта. Аднак ён уважліва сочыць за падзеямі на Радзіме і не губляе надзеі, што сітуацыя ў Беларусі палепшыцца. *«Вядучыя палітыкі ў Расіі, за выключэннем, магчыма, Юрыя Лужкова, вельмі адэкватна ўспрымаюць нашага прэзідэнта. Шанцаў на перамогу ў Расіі ў Лукашэнкі няма, і ў Беларусі яго падтрымлівае ўсё менш людзей. Канечне, расіяне не будуць за нас мяняць гэты рэжым. Усё залежыць ад саміх жыхароў Беларусі»*, — лічыць Павел Шарамет.

Алег **ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

## У Расію хоць на паўгадзіны

**Беларускія ўлады атрымалі пастаянны доступ на Расійскае дзяржаўнае тэлебачане і радыё. Такая дамоўленасць дасягнутая ў сераду ў Мінску падчас сустрэчы Аляксандра Лукашэнкі і дырэктара тэлекампаніі «Расія» Міхаіла Швыдкога.**

Шэф РТР прыязджаў у Мінск па запрашэнні беларускага прэзідэнта. Ягоная сустрэча з Лукашэнкам доўжылася каля 2 гадзінаў, а пасля яе заканчэння М.Швыдкой паведаміў, што цяпер супрацоўнікі беларускай тэлерадыёкампаніі атрымаюць штотыднёвы 30-хвілінны эфір на Расійскім дзяржаўным тэлебачанні і 15 хвілінаў эфіру ў тыдзень — на Радыё Расіі. Цяпер расійскія грамадзяне ўвачавідкі пераканаюцца ў вартасцях беларускай мадэлі «рынкавага сацыялізму», убачаць, як змагаецца Аляксандр Лукашэнка з вераломнымі заходнімі ворагамі, і атрымаюць шмат іншых цікавых навінаў з братняй краіны.

Многія назіральнікі ў Мінску лічаць, што М.Швыдкога на так крок падштурхнулі зусім не асабістыя сімпатыі да беларускага прэзідэнта. Хутчэй шэф Расійскага тэлебачання расплаціўся такім чынам за даўнюю запазычанасць сваёй кампаніі за трансляцыю праграмаў Расійскага тэлебачання і радыё на тэрыторыі Беларусі.

Дарэчы, Аляксандр Лукашэнка ў размове з маскоўскім госцем абвясціў аб стварэнні ў Беларусі другога тэлеканала. Рыгоравіч назваў яго «антыкісялёўскім», г.зн. альтэрнатыўным першаму каналу, якім кіруе Рыгор Кісель.

Альгерд **НЕВЯРОЎСКІ**



## Пратакол на ўлёткі

**У Магілёве падчас распаўсюджвання ўлётак быў затрыманы і дастаўлены ў Цэнтральны РАУС кіраўнік мясцовай арганізацыі БНФ Анатоль Фёдараў. Гэта быў першы арышт сярод магілёўскіх апазіцыянераў у новым годзе.**

Акцыя прысвячалася гадавіне антырасійскага паўстання ў Магілёве. Яно адбылося ў 1655 годзе, падчас акупацыі горада расійскімі войскамі. Магілёўцы тады некалькі месяцаў цярпелі грабяжы і разбой маскоўскіх салдатаў, а потым арганізавалі змову. У адну ноч быў выразаны ўвесь расійскі гарнізон. За гэта Магілёў атрымаў пазней тыя ж эканамічныя правы, што і сталіца Вялікага Княства Літоўскага Вільня.

Ва ўлётках распавядалася пра сумную гісторыю беларуска-расійскіх узаемаадносінаў, яны прысвячаліся антынароднай палітыцы сённяшняга рэжыму, які арыентуе Беларусь толькі на Усход. Арганізатары акцыі заклікалі ўступаць у грамадзянства БНР і ратаваць такім чынам Бацькаўшчыну ад магчымай расійскай акупацыі.

Разам з Фёдаравым улёткі распаўсюджвалі яшчэ некалькі актывістаў БНФ. Як лічыць сам затрыманы, за ім сачылі. Ён паспеў «папрацаваць» усяго 5—10 хвілінаў, калі два міліцыянты падхапілі яго пад рукі. У пратаколе Фёдараву інкрымінавалі «распаўсюджванне незарэгістраванай друкаванай прадукцыі, у якой змяшчаюцца заклікі да барацьбы з існуючым рэжымам». Фёдараву пагражае буйны штраф ці нават адміністрацыйны арышт.

Сымон **ГЛАЗШТЭЙН**

## Маладыя рыхтуюцца да з'езда

**Другі з'езд «Маладога фронту», маладзёжнага крыла Беларускага Народнага Фронту, які павінен адбыцца ў Мінску 7 лютага, знаходзіцца пад пагрозай зрыву.**

Адміністрацыя Палаца культуры АА «Сукно», дзе запланаванае правядзенне з'езда, адмаўляецца прадаставіць памяшканне без візы мэра Мінска Ярмошына альбо ягонага намесніка Чыкіна.

Плануецца, што ў з'ездзе возьмуць удзел каля 700 дэлегатаў з усёй Беларусі. Таксама на мерапрыемства запрошаныя ў якасці назіральнікаў сотні гасцей і журналістаў. Разгляду дэлегатаў будзе прапанаваны «Маніфест маладых» — праграма дзеянняў МФ у галіне маладзёжнай палітыкі. Будуць вырашацца таксама іншыя, не менш важныя пытанні. Як чакаецца, на з'ездзе будзе выпрацаваная і зацверджаная тактыка дзеянняў маладафронтаўцаў на вясну 1999 года.



Гарачая пара для маладых апазіцыянераў пачынаецца ўжо 14 лютага. У гэты дзень у Мінску ў 17 гадзінаў павінен пачацца марш «Беларусь — у Еўропу!», удзельнікі якога разнясуць па пасольствах, акрэдытаваных у Беларусі, петыцыю. Першыя два падобныя маршы прайшлі ў Мінску ў лютым і сакавіку 1997 года.

25 лютага на волю выходзіць Аляксей Шыдлоўскі. Ён быў прыгавораны да паўтарагадовага заключэння за антыпрэзідэнцкія графіці ў горадзе Стоўбцы ў жніўні 1997 года. Шыдлоўскі поўнасцю адбыў гэты тэрмін, і цяпер яго таварышы плануюць сустрэць палітзняволенага масавай акцыяй, заяўка на якую таксама ў хуткім часе будзе пададзеная ў Мінгарвыканкам.

*Прэс-цэнтр Хартыі'97*

## Даже ЛДПР против

**Лидер ЛДПР С.Гайдукевич собирается требовать у Национальной государственной телерадиокомпании РБ опровержения порочащих его сведений.**

В заявлении, распространенном руководством ЛДПР, говорится, что «партия уже давно не обращает внимание на белорусское телевидение, которое периодически дезинформирует общественность Республики Беларусь. Но в программе «Панорама» телезрителей проинформировали о том, что «Сергей Гайдукевич организовал инициативную группу и собирает подписи для своего выдвижения в Минский городской Совет депутатов». Мы понимаем, зачем нужна эта клевета. Это попытка придать этим сомнительным выборам какую-то легитимность. Однако выборы не могут считаться демократическими».

## Ці выжывуць?

**У 1998 годзе самая нізкая зарплата ў Беларусі была ў жыхароў Брэсцкай вобласці.**

Афіцыйная статыстыка сцвярджае, што сярэднемесячная зарплата ў Брэсцкай вобласці па выніках мінулага года самая нізкая ў рэспубліцы — 4,3 мільёна рублёў. Менш за ўсіх па-ранейшаму атрымоўвалі работнікі калгасаў і саўгасаў, дзе, дарэчы, зафіксаваныя сур'ёзныя затрымкі па выплатах — у некаторых гаспадарках людзі не атрымліваюць грошай па чатыры месяцы. Паводле афіцыйных звестак, на сённяшні дзень агульная запазычанасць па зарплаце ў Брэсцкай вобласці складае 216 мільярдаў рублёў.

*БелаПАН*

## Будзе ведаць, як званіць

**У канцы мінулага тыдня магілёўская міліцыя «вылічыла» яшчэ аднаго тэлефоннага тэрарыста.**

Васьмікласніца магілёўскай СШ N 1 тэрарызавала сваю родную школу. Яна двойчы пазваніла ў міліцыю: спачатку «паінфармаваць пра міну», а потым — праверыць рэакцыю міліцыянтаў. Дзяўчыну ўдалося знайсці, аднак пасадзіць непаўналетнюю тэрарыстку нельга. Так што бацькам давядзецца заплаціць штраф у некалькі дзесяткаў мільёнаў рублёў.

Іван **ЗАСАДА**

## Багацце дэфіцыту

**Рынкавы сацыялізм суправаджаецца дэфіцытам прадуктаў — не тых, дык іншых.**

Толькі ўздыхнулі магілёўцы з палёгкай, што яйкі зноў з'явіліся на прылаўках, як на іх навалілася новая праблема. Дэфіцыт яек і масла змяніўся адсутнасцю ў крамах вараных каўбасаў, сасісак і сыроў. Мясцовы мясакамбінат на працягу мінулага тыдня не выпускаў нічога, апроч вэнджаных каўбасаў і «супавых набораў». Дырэктар камбіната Міхаіл Хортаў тлумачыць дэфіцыт недахопам патрэбнай сыравіны. «Раней на ўбой ішло каля 500 галоў жывёлы ў дзень, а цяпер добра, калі столькі на тыдзень дадуць». Вядома, што абласныя статак у параўнанні з мінулым годам зменшыўся ўдвая. Жывёлу няма чым карміць, і калгасы пераходзяць нават на хвойны корм, не маючы грошай на набыццё прыстойных кармоў.

Прыкладна тое ж адбываецца з цвёрдымі сырамі і цукрам. Па заніжаных «дзяржаўных» коштах іх купіць немагчыма. Затое ў крамах амаль не распрадаюцца рыбныя вырабы, кошт якіх па 500 — 700 тысяч за кг, і шампанскае, бутэлька якога «цягне» амаль на мільён рублёў. Магілёўцы жартуюць: у нас цяпер вялікі выбар таго, што не здольныя набыць.

Сымон **ГЛАЗШТЭЙН**

## *Валюта*

На 4 лютага Нацыянальны банк Беларусі ўстанавіў наступныя афіцыйныя і спецыяльныя курсы валют: долар ЗША — 142.000/225.000 беларускіх рублёў; еўра — 161.113,20 / 255.285,00; нямецкая марка — 82.375,87/ 130.525,15; расійскі рубель — 6.140 / 9.730.

У параўнанні з учарашнім днём афіцыйны курс долара вырас на 2.000 рублёў, спецыяльны не змяніўся.

На «чорным» рынку наяўнай валюты ў Мінску раніцай 4 лютага долар куплялі па 270.000—275.000 і прадавалі па 280.000—285.000 рублёў. У параўнанні з учарашнім днём курс знізіўся ў сярэднім на 5.000 рублёў.

*БелаПАН*

## Зноў вінавата надвор'е

**Для сельскай гаспадаркі Брэсцкай вобласці 1999 год можа стаць фатальным.**

Як паведаміў намеснік старшыні Камітэта па сельскай гаспадарцы і харчаванні Брэсцкай вобласці Сяргей Калешка, у 1998 годзе калгасы і саўгасы недатрымалі 3% прадукцыі ў параўнанні з мінулым годам. Бульбы, ільну, буракоў было сабрана параўнальна больш, аднак недабор па збожжы склаў 270 тысяч тон. З-за дрэннага надвор'я шмат якім гаспадаркам не ўдалося належным чынам падрыхтавацца да зімы — кармоў было нарыхтавана на 20% менш, чым у 1997 годзе. У сувязі з гэтым сёлета можа знізіцца прадуктыўнасць у жывёлагадоўчай галіне.

Колькасць стратных гаспадарак на Брэстчыне за мінулы год павялічылася з 35 да 56, а рэнтабельнасць знізілася з 15 да 10 працэнтаў. У 1,8 раза ўзраслі даўгі калгасаў, якія сёння перавышаюць 4 трыльёны рублёў. Значная частка гаспадарак не спраўляецца з бягучымі расходамі, таму маюцца затрымкі з выплатамі і без таго нізкай зарплаты. Тым не менш, усе няўдачы спісваць на надвор'е нельга: імклівы рост цэнаў на рэсурсы і даволі маруднае іх павышэнне на малако, мяса, збожжа і іншую прадукцыю сельскай гаспадаркі паставілі ўсю галіну на мяжу выжывання.

## Трымайцеся! Вашыя правы абароніць Замяталін

Савет Міністраў Беларусі прыняў пастанову «Аб стварэнні рабочай групы па распрацоўцы нацыянальнай праграмы дзеянняў па абароне правоў і свабод грамадзянаў ва ўмовах фарміравання грамадзянскай супольнасці ў Рэспубліцы Беларусь». Групу ўзначаліў віцэ-прэм'ер Уладзімір Замяталін, які кіруе таксама камісіяй па перарэгістрацыі грамадскіх аб'яднанняў.

*БелаПАН*

# «Амерыканскі» дом каля танка

**Гродна наведала другі сакратар амерыканскага пасольства Эн Карсан з прадстаўнікамі міністэрства абароны ЗША. Ім хацелася агледзець жылы дом, пабудаваны на грошы амерыканскага ўрада.**

Восенню 1995 г. амерыканскі пасол Кэнэт Ялавіц разам з вайсковым аташэ паклалі першы шуфель цэменту ў падмурак будучага дома. Пабудавалі яго за паўтара года. Вясной 1997 г. планавася ўдзел К.Ялавіца ва ўрачыстым адкрыцці новага дома. Аднак у Мінску здарыўся скандал, нават два. Улады выслалі амерыканскага дыпламата С.Аляксандрава і забаранілі ўезд другому амерыканскаму грамадзяніну — кіраўніку Беларускага фонду Сораса Пітэру Бэрну. К.Ялавіц не прыехаў у Гродна, дом засялілі без яго. А ўлетку на Беларусь быў прызначаны новы пасол — Дэніэл Спекхард. Ён прыязджаў у Гродна год назад, аднак наведванне ім дома для вайскоўцаў не планавалася.

У гэтым доме 9 паверхаў, 170 кватэр. Выглядае ён даволі звычайна, хіба што дзверы ў пад'ездах пакрыты лакам. Побач з ім стаіць на пастаменце вялікі танк «Іосіф Сталін». Будоўля пачыналася на тэрыторыі вайсковага гарадка «Фолюш». Калі яна была закончана, межы гарадка скарацілі і нават перанеслі метраў на 150 кантрольна-прапускны пункт. Таму дом цяпер знаходзіцца каля жылой забудовы.

Цікава, што амерыканцы выдзялялі грошы для жылля афіцэраў, звольненых з былых савецкіх стратэгічных ракетных дывізіёнаў. На той час яны належалі ўжо суседняй Расіі, апошнія ракеты былі вывезеныя з Беларусі толькі ў канцы 1996 года. Атрымлівалася, што фактычна расійскія ракетчыкі павінны былі засяліць гэты вельмі якасна пабудаваны дом, прыватызацыя кватэры ў якім каштуе ажно 9 тысяч долараў. Ясна, што ў рэшце рэшт жыллё атрымалі там і беларускія вайскоўцы. Але не толькі яны. Кватэры «выбілі» сабе і некаторыя начальнікі, якія не мелі адносінаў не толькі да ракетных сілаў, а ўвогуле да войска.

Па нашых звестках, мэтай амерыканскіх візіцёраў было, апроч іншага, пацікавіцца: ці тыя людзі засяляюць дом, для каго ён будаваўся? Аднак дыпламаты любяць дыпламатычна адмоўчвацца. Маўляў, усё о'кэй. На грошы, праўда, спадзявацца, маркуючы па ўсім, больш не варта.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

### *Коратка*

Гадавы агляд пра становішча з правамі чалавека ў Рэспубліцы Беларусь у 1998 годзе прадставіў 3 лютага ў Мінску праваабарончы цэнтр "Вясна-96".

З 4 лютага ў Гомелі аб'яўляецца каранцін у сувязі з ростам колькасці хворых на грып. Спыняюць работу сярэднеадукацыйныя школы. Забаронена наведванне хворых у стацыянарах, у аптэкі горада паступілі падрыхтаваныя па выпадак эпідэміі неабходныя лекі.

Убліжэйшы час на Беларусі падаражае падпіска на перыядычныя выданні. Як паведамілі ў рэспубліканскім дзяржаўным аб'яднанні «Белпошта», гэта выклікана ўвядзеннем з 1 красавіка новых тарыфаў на экспедаванне, перасылку і дастаўку перыядычных выданняў на тэрыторыі Беларусі, якія павышаюцца на 50 працэнтаў.

Паводле дадзеных міністэрства статыстыкі і аналізу Беларусі, за першыя тры тыдні студзеня рост спажывецкіх цэнаў склаў 17,4%. Для параўнання: у студзені мінулага года спажывецкія цэны выраслі на 3,9%.

На 1 студзеня 1999 года крэдыторская запазычанасць прадпрыемстваў аграпрамысловага комплексу Беларусі разам з запазычанасцю па пазыках банкаў, набліжаецца да 65 трыльёнаў рублёў (465 млн. долараў), у той час як на пачатак 1998 года гэтая лічба складала 35 трыльёнаў.

Такія лічбы прывёў намеснік прэм'ер-міністра Аляксандр Папкоў падчас удзелу 3 лютага ў «круглым стале», праведзеным у лукашэнкаўскім парламенце па пытаннях фінансава-эканамічнага аздараўлення сельскай гаспадаркі.

*БелаПАН*

ГЕАПАЛІТЫКА

# Узбекістан не верыць у калектыўную абарону

Аб магчымым выхадзе Узбекістана з Дамовы аб калектыўнай бяспецы краінаў СНД заявіў у мінулую сераду высокапастаўлены чыноўнік з узбекскага МЗС. Агенцтва Інтэрфакс, якое распаўсюдзіла гэтую навіну, не паведамляе прозвішча адважнага ўзбека, аднак падрабязна цытуе ягоныя словы, што дамова ўжо не адпавядае патрабаванням часу, што *«Узбекістан не бачыць неабходным працягваць свой удзел у гэтым пагадненні»* і ўвогуле Ташкент не згодны з тым, што Масква *«праяўляе залішнюю вайсковую актыўнасць у некаторых краінах СНД»*.

Нагадаем, Дамова аб калектыўнай бяспецы краінаў СНД была падпісаная якраз у Ташкенце ў 1992 годзе. Спачатку ў ёй удзельнічалі Расія, Арменія, Казахстан, Узбекістан, Кыргызстан ды Таджыкістан, а праз год да іх далучыліся Азербайджан, Грузія і апошняй, у снежні 1993 года, Беларусь. Але ўступіла ў сілу гэтае пагадненне толькі 20 красавіка 1994 года, пасля ратыфікацыі ўсімі краінамі-ўдзельніцамі (з таго дня і пачаўся 5-гадовы адлік тэрміну дзеяння дамовы). Прычым дакументам прадугледжвалася, што калі ніводная з краінаў-удзельніц не заявіць аб выхадзе, дзеянне дамовы аўтаматычна будзе працягнутае яшчэ на 5 гадоў.

Зараз пад пагрозай не толькі перспектыва падаўжэння тэрміну гэтай дамовы, але і ўся Садружнасць. Пра гэта ўжо заявілі некаторыя расійскія палітыкі. Напрыклад, кіраўнік камітэта расійскай Дзяржаўнай думы Канстанцін Затулін не выключае, што калі Узбекістан сапраўды выйдзе з дамовы, «пасыплецца ўся структура СНД». Між тым, варта заўважыць, што сваю афіцыйную пазіцыю Узбекістан дагэтуль не праясніў: ні МЗС, ні прэзідэнт Карымаў нічога пра далейшае стаўленне Узбекістана да дамовы не заявілі.

Цікава, што з некаторымі прэтэнзіямі, выказанымі крыніцай з узбекскага МЗС у бок Масквы, у СНД пагаджаюцца. У прыватнасці, першы намеснік выканаўчага сакратара СНД Іван Шабунін назваў справядлівай заўвагу пра тое, што Расія часам не ўзгадняе свае дзеянні з іншымі ўдзельніцамі дамовы аб калектыўнай бяспецы. *«Раней кансультацыі праводзіліся рэгулярна, і прэтэнзіяў не ўзнікала, цяпер сістэма кансультацыяў дае збоі»*, — прызнаўся карэспандэнту НАВІНАЎ Іван Шабунін. Ён, аднак, упэўнены, што інцыдэнт удасца вырашыць і Узбекістан застанецца ў СНД і ягоных абаронных структурах.

Тым часам не ўсе аглядальнікі падзяляюць гэты прагноз. Многія звяртаюць увагу на тое, што Узбекістан фактычна па ўсіх пытаннях, што разглядаюцца ў СНД, стаіць паасобку і апошнім часам ягоны дрэйф далей ад Садружнасці ўзмацніўся. *«Нават узбекскія памежнікі праходзяць падрыхтоўку не ў Расіі, а ў ЗША. Хіба гэта выпадкова?»* — задаюцца пытаннем дасведчаныя спецыялісты з штаб-кватэры СНД у Мінску.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**



# Два рубля с полтиной вместо экономики

По данным министерства статистики, за 10 месяцев прошлого года в сфере экономики уголовные дела возбуждены по 15,7 тысячам преступлений, выявлено 7,5 тысячи лиц, подлежащих за это преданию суду, а число преступлений «в крупных и особо крупных размерах» составило 1.258.

Органам удалось установить 677 случаев дачи и получения взятки. С учетом конфиденциального характера мздоимства, можно сказать, что это капля в море. На самом деле «берущих» — тьма, дающих — еще больше, но еще больше тех, кто страдает от того, что нечего «сунуть в лапу», поскольку денег нет. Поэтому большинство никаких «преференций» от казны не получает и свои потребности удовлетворяет иными способами. Очень распространены, например, кражи (43% всех выявленных преступлений).

Понятно, что и выявленные кражи — это тоже капля в море, потому что практически у каждого из нас что-то крадут достаточно регулярно. Но еще больше и в массовом порядке крадут у государства и у субъектов хозяйствования. Независимо, что называется, от формы собственности.

Самое печальное во всем этом, что ввиду отсутствия у индивидов (гражданами их назвать трудно) чего-либо своего, собственного, ни мздоимство, ни воровство не осуждаются общественной моралью. Это основные способы социального бытия в стране, настаивающей на верности прежним принципам, в соответствии с которыми человека лишили прав, а затем и собственности. Поэтому не красть — значит и не жить, по крайней мере, не жить хорошо. Короче, воруй, но не попадайся.

В этой связи понятно, что правосудие по отношению к экономическим, и не только, преступникам не может не быть избирательным, и, соответственно, не может быть объективным. Зато такое правосудие вполне может исполнять заказ по «усмирению» людей за действия, далекие от криминала.

В последние годы в Беларуси этот механизм срабатывает все чаще. В этом отношении показательно «дело Грушевого», руководителя благотворительного фонда «Детям Чернобыля». Напомним, что Фонд обвинялся в сокрытии доходов от налогообложения, что якобы привело к образованию задолженности в сумме 15.000 немецких марок. На самом же деле проверяльщики «не заметили», что в таможенных документах цена списанного грузовика *IFA*, переданного немецкой стороной "Детям Чернобыля" (72.000), обозначена не в «у.е.» и не в марках, а в неденоминированных белорусских рублях. Поэтому символическая 1 марка, по которой оценили грузовик немцы, через несколько лет, по мнению проверяльщиков, нанесла колоссальный ущерб казне белорусского государства.

Были и другие не менее абсурдные обвинения, которые вполне могли бы окончиться вынесением обвинительных приговоров, но деятельность Фонда носила международный характер и контролировалась не только белорусской Фемидой. Представительная международная комиссия, прибывшая в Минск, ознакомилась с актами наших органов и заявила, что заведенное уголовное дело «является не просто ложным, но сильно преувеличенным и несерьезным».

*(Продолжение на стр. 3)*

# Белорусов приглашают в «империю духа»

**Этими днями в Минске на некоторых станциях метро молодые люди раздавали пассажирам мини-газету «Русское национальное единство», где напечатана беседа лидера РНЕ А.Баркашова с А.Прохановым — главным редактором российской газеты «Завтра».**

Оба собеседника известны как крайние русские националисты. Материал в доступной форме знакомит с программой РНЕ, тактикой и стратегией этой организации, которая борется за возрождение Российской империи — как возрождение «империи духа», от которой, однако, сильно попахивает фашизмом.

Все это было бы просто любопытно, если бы не два нюанса. Во-первых, ни один представитель правоохранительных органов не интересовался у распространителей, «по какому праву», не мешал, не тянул штрафовать в милицию — и это у нас, где рядом с каждым пикетом демократических сил сразу же вырастает милиция. Во-вторых, на лицевой странице рядом с символом РНЕ стоит приглашение на встречи минских соратников.

В свете создания братского Союза привлечение белорусов в структуры РНЕ можно трактовать как освоение «искони Русской провинции». Возможно, что неприятности, которые доставляют баркашовцам в Москве Лужков и его соратники, заставляют Русское национальное единство готовить себе штаб-квартиру в нашей столице. Похоже, скоро в Минске появятся несколько дополнительных рабочих мест для портных — по пошиву черной униформы.

**Я.М.**

# Какая политика – такое и молоко

**Президент республики твердо пообещал в этом году не закапывать в землю деньги вместе с озимыми и яровыми — не давать кредитов слабым колхозам. Это еще больше заострило интерес к возможностям нашего сельского хозяйства. О проблемах, которые держат в тисках неудачи село, корреспонденту НАВІНАЎ рассказывает доктор экономических наук И.Н.Никитченко.**

***Кор.*** *Как вы, Иван Николаевич, оцениваете ситуацию в сельском хозяйстве и возможные перспективы увеличения продукции?*

**Никитченко.** Нынешнее состояние можно оценить как катастрофическое. И перспективы улучшения на 1999 год, на мой взгляд, нет. Например, в растениеводстве реальный валовый сбор зерна составил около 4 млн. тонн. А нам надо 8 млн. тонн. То есть, получили половину от потребности. Правда, с картофелем, овощами, плодово-ягодными культурами проблема остро не стоит — население научилось само себя обеспечивать. Уже в 1997 году 82–85% этой продукции выращивалось на дачах, огородах, личных участках.

А вот с зерном, которое на дачах не вырастишь, — большие сложности. На сегодняшний день, по данным Минсельхозпрода, практически нет ни единого зерна пшеницы продовольственных сортов. Не хватает 1,5 млн. тонн пшеницы разных сортов, недостает 350 тысяч тонн твердой пшеницы. Более того, не хватает ржи. При потребности собрать до 1 июня прошлого года 850 тысяч тонн собрано 680 тысяч. Многие поля не были убраны, не хватило ни техники, ни топлива. Можно, конечно, купить зерно в России, Польше, Литве. Но мы не рассчитались за поставки 1997 года. Более того, президент республики своим распоряжением от 16 июля прошлого года конфисковал эту собственность российских, украинских, литовских фирм, даже одна английская фирма попала под действие распоряжения.

*Как-то не укладывается в сознании, что конфискация возможна. Ведь существует арбитражный суд.*

Да, фирмы обратились в суды. Например, из Ростовской области поступило 160 тысяч тонн пшеницы, в том числе более тысячи тонн поставила фирма «Степи Приазовья». По решению арбитражного суда Ростовской области зерно, поставленное фирмой в 1997 году, является ее собственностью. Тем не менее эта собственность была включена в объем конфискации.

*На основании чего?*

Да просто так. Реквизиция. Иначе не назовешь. А теперь ездим и просим. Валюты для оплаты нет. Национальный банк задолжал коммерческим банкам 65 млн. долларов. Бартер запретили. Вернее, и сейчас идет продажа по бартеру мяса и молока. Но сами производители этой продукции не участвуют в бартерных поставках, а значит, деньги получают не производители, а посредники. В результате получается, что мясо у производителя забрали, а денег ему не вернули. Поэтому птицеводство «поехало» вниз. Свиноводство сокращается.

*Посреднические фирмы, которые покупают у колхозов, это государственные структуры?*

Нет. Это структуры, которые созданы при государственных органах управления. Просто — «при». Кого-то устраивает, чтобы действовали такие передаточные механизмы. Приведу конкретный пример. В Минской области 25 свиноводческих комплексов. В 1990 году они производили около 50 тысяч тонн свинины. В 1997 году произвели 32 тысячи тонн, то есть произошло снижение производства на 18 тысяч тонн. Но ведь в этих комплексах прежние технологии, помещения, работают те же люди. Не хватило только необходимого количества зерна для откорма. А ведь упомянутая фирма «Степи Приазовья» готова была взять на себя поставку зерна, предложив создать финансово-промышленную группу. Планировалось, что 25 наших комплексов, которые входят сейчас в систему «Свинина», объединятся с фирмой «Степи Приазовья», Клецким комбикормовым заводом и Слуцким мясокомбинатом. Было просчитано, что каждый из участников выходит на определенные мощности, получает зерно и рассчитывается свининой. Расчеты показали, что прибыль получат все. Рентабельность — от 15 до 40 процентов. Это очень хороший уровень рентабельности. И цена на свинину будет в два раза меньше, чем предлагают магазины. Руководители комплексов собрались, проявил инициативу Минский агропром, был подписан протокол о намерениях.

*Перед Новым годом в магазинах появилось много мяса, оно и сейчас есть. Говорят, что сейчас забивают больше скота, потому что нечем кормить. И, мол, скоро все это съедят, а потом вновь увидим пустые прилавки, как было в минувшем ноябре. Насколько это реально?*

Есть две причины, по которым мясо снова появилось в продаже после осеннего дефицита. Во-первых, «выбросили» резерв мясокомбинатов перед праздниками, чтобы успокоить взбудораженное население. Вторая причина — действительно идет процесс массового сброса поголовья. На 1 января этого года недобор зерна составил 39%. Ясно, что всех не прокормишь, и начался убой.

*Однако те, кто сокращает поголовье, наверное, понимают, что позже его придется восстанавливать. Восстановится ли поголовье к следующему Новому году?*

Чтобы восстановить животноводство до уровня 1990 г., потребуется 10 лет в свиноводстве и 15 лет для крупного рогатого скота. И все оптимистические прогнозы, которые звучат по телевизору, — лишь слова для убаюкивания населения. В прошлом году по сравнению с предыдущим поголовье крупного рогатого скота уменьшилось на 84 тысячи голов, в том числе, так сказать, потеряно 16,3 тысячи коров. Образно говоря, два района республики полностью остались без коров. Свиней осталось 40% от уровня 1990 года. Откуда же возьмутся мясо и молоко? Только из приписок. В 1998 г. по отчетам о реализации было произведено 588 тысяч тонн мяса в убойном весе. Но на мясокомбинаты поступило 273 тысячи тонн. Из этого количества ушло по бартеру 31,9 тысячи тонн. Остаток — 242 тысячи тонн, или по 24 кг на душу населения. Где остальное — загадка. А в 1990 г. мы произвели по 116 кг мяса на каждого жителя Беларуси. Так же и с молоком. Отчитались, что произвели около 4 млн. тонн, а на молокозаводы поступило 2.370 тыс.тонн. То есть было произведено по 237 литров молока на жителя страны, а в 1990 г. этот показатель составлял 420 литров.

*Но ведь мясо и молоко производит и так называемый частный сектор.*

Да, и немало. К официальным 24 кг. колхозного мяса на душу населения надо добавить еще 52% произведенного в частных хозяйствах. Молока частный сектор дает около 55%.

*И в печати, и по телевидению постоянно проходит тема нехватки техники на селе. Сейчас появилась обнадеживающая информация, что промышленным предприятиям в областях предписывается в качестве помощи оплачивать новые комбайны для колхозов — около сотни машин на каждую область. Насколько это верно, и решит ли такая помощь проблему?*

По всем видам техники — посевной, уборочной и т.д. — парк составляет 46% от потребности. Поэтому нагрузка на трактор «Беларусь», например, возрастает: при норме 40 га — до 100 га. На каждый комбайн приходится до 500 га при дневной норме 12 га. Сколько же дней может длиться уборочная страда? Пока поле такого комбайна дождется, то зерно или осыпется, или сгниет под дождями. Может и вовсе остаться неубранным, как случилось на многих полях минувшей осенью.



Шефская помощь, когда заводы будут покупать технику для колхозов, ничего принципиально не изменит. Потребность в комбайнах составляет 30,4 тысячи машин. Сегодня в парке — 19 тысяч. Ну, приобретут заводы для каждой области по 100 новых комбайнов, ну, пусть даже по 200. Все равно будет не хватать еще 11 тысяч машин. А где их взять?

*Иван Николаевич, может быть, все же есть основания для оптимизма? Какие, по-вашему, срочные меры могут изменить ситуацию к лучшему?*

Есть меры тактические, есть стратегические. Из тактических, которые осуществить достаточно просто, — это изменение порядка закупки сельхозпродукции. Собственно, реализация мер, о которых сотни раз говорили. Нужно не мешать хозяйствам производить то, что они считают необходимым производить, и не мешать продавать таким покупателям, которые лучше платят. Сегодня порядок закупки сельхозпродукции перевернут с ног на голову. Колхоз, например, произвел молоко. У него купили по 4.000 рублей за литр, взяли на молокозавод, залили в цистерну, повезли в область. Но уже положили сверху 7 налогов. Привезли, там добавили воды, чтобы получить 1,5% жирности, или сделали творог и сметану. Снова 7 налогов сверху. Доставили в магазин — там 30% сверху вновь. Выходит, колхозу за литр молока жирностью 3,5% платят 4.000 рублей, а мы в магазине за молоко жирностью 1,5% платим 12.000. А ведь из литра колхозного молока получается 2,3 литра магазинного — общей стоимостью 28.000 рублей. Навар, как видим, немалый. Только он проходит мимо производителя.

Нужно менять всю систему. В первую очередь, нужны стратегические решения о праве частной собственности на землю, о праве залога земли в ипотечные банки за кредит, об оценке действительной стоимости земли и т.д. Но это тема для отдельного разговора.

*Надеюсь, мы об этом поговорим.*

# Два рубля с полтиной вместо экономики

(Пачатак на стар.2)

Наше государство вообще подозрительно относится к любой неконтролируемой им инициативе, но в данном случае попытка «пришить» уголовную статью применялась к человеку очень заметному. Помимо того, что Грушевой — доктор философии, он еще и депутат ВС двух последних созывов, и политик, что называется, публичный.

Александр Пупейко тоже имел в Беларуси широкую известность как успешный бизнесмен и общественный деятель. Возглавляемая им фирма «Пуше» занялась торговлей автомобилями «Шкода» и электробытовой аппаратурой фирмы «Филипс», а также их сервисным обслуживанием. Торговля принципиально новыми для отечественного потребителя высококачественными товарами позволяла «Пуше» вкладывать деньги в производство. Фирма осуществляла ряд проектов, например, строительство в колхозе «Вишневка» Минского района сельскохозяйственного комплекса (комбикормовый завод, предприятие по производству биогумуса, цех по переработке мяса и производству колбасных изделий).

Николай Лапуть, председатель колхоза «Вишневка» и депутат ВС, считал в то время, что совместными усилиями удалось создать уникальное производство, которое не замыкается на переработке, а участвует в улучшении плодородия земли. В частности, «Пуше» вложила в посевную 1995 года миллиард рублей, что позволило приобрести удобрения, запчасти, семена. В то же время, отмечал председатель, распространению такого опыта могут помешать многочисленные юридические препятствия.

Как водится, препятствия не заставили себя долго ждать. Против Пупейко за «неаккуратное» пользование кредитами было возбуждено уголовное дело, и ему пришлось укрываться в Польше. Виноват он или нет, мы не знаем, но польские власти не нашли достаточных оснований для выдачи бизнесмена отечественной Фемиде. Отметим только, что фирмы «Пуше» в Беларуси больше нет, и, соответственно, денег в развитие колхоза «Вишневка» она не вкладывает. Кстати, недавно, в ответ на введение обязательного лицензирования благотворительной деятельности, свои гуманитарные программы заморозил и фонд «Детям Чернобыля».

Дело Владимира Кудинова, депутата ВС и предпринимателя, также показывает, что самым очевидным результатом восстановления справедливости по-белорусски является ликвидация предприятий и организаций, приносящих народу непосредственную пользу. Напомним, что Кудинову инкриминирована дача взятки сотруднику ГАИ, за что он осужден на 7 лет лишения свободы.

Об этом деле много писалось, но от внимания общественности были фактически скрыты обстоятельства и результаты предпринимательской деятельности Кудинова. Торгово-промышленная фирма «Ивацевичи», директором которой он был, выращивала и перерабатывала свиней и крупный рогатый скот, реализуя продукцию в 27 фирменных магазинах по ценам ниже, чем в потребкооперации. По местным свидетельствам, благодаря Кудинову впервые за многие десятилетия в районе исчез колбасный дефицит.

Это экономика. А вот социальный результат: в хозяйстве Кудинова работало 300 человек, которые (мечта свободных и несвободных профсоюзов) получали заработную плату не ниже 100 долларов. Эти успехи, а также политическая активность Кудинова, не могли оставить равнодушным наш нетерпимый к гражданским инициативам режим. Первоначально с помощью административного давления, затем через суд фирму «Ивацевичи» постарались разорить. Это почти удалось, но сам директор оставался на свободе, а значит, мог начать очередную «опасную» затею. Ныне Кудинов под надежной охраной, его работники не у дел, имущество (импортное оборудование цехов) разворовано.

Что касается Василия Старовойтова, то, по утверждению специалистов, при реорганизации колхоза «Рассвет» он допустил определенные нарушения законодательства. Не спорим. Гораздо важнее, что председатель АО был знаковой фигурой и для старой, и для новой Беларуси. И пока он открывал магазины для торговли колхозной продукцией без посредников, у других председателей оставалась надежда на перемены к лучшему.

Теперь надежды как таковой нет. Жизнь вообще, и хозяйственная в частности, стала заложницей, как говорит Лукашенко, «великой политики». Он, очевидно, думает, что все им совершаемое и судьбоносно, и эпохально. Но результаты говорят об обратном. Первый президент все больше напоминает салтыковского Василиска Бородавкина, который сжег сколько-то там деревень, но вернул два рубля с полтиной недоимки. Вот и все величие.

**Константин СКУРАТОВИЧ**

Станислав ЛЕМ

# Всегда был невидимым

*Доволен ли, пан Станислав, что издательство Literackie готовит пану памятник, издавая Полное собрание сочинений?*

У меня сложные чувства. Задумываюсь, не стану ли я камнем на шее издательства, ведь в сегодняшнее время нет более простого способа банкротства, чем издание многотомных сочинений, особенно польских. На счастье, не доживу до того дня, потому что издание Полного собрания сочинений рассчитано на шесть лет. Сейчас издательства зависят от рынка. Во времена Польской Народной Республики зависели от государства. Наибольшие тиражи у меня были в годы войны. Издавали тогда 400 тысяч экземпляров ежегодно. Теперь, если книга выходит в 10 тысяч экземпляров, то уже большая удача. Знаю, что в целом собрание будет состовлять 40 томов, для начала пойдут сюжетные повести, легкие при отборе. В первом томе, который уже на рынке, вышел «Катар».

*Почему же в годы войны книги пана Лема пользовались таким успехом?*

Во-первых, потому, что, возможно, не совсем правда, что быт определяет сознание. А во-вторых, будем искренни, не было ничего другого для чтения. Мне вспоминается анекдот о том, как западные журналисты в советские времена приезжали в Москву и восхищались, что россияне в метро читают Достоевского и Толстого. Причина была прозаическая: не имели тогда ничего другого.

*Постоянно падают на пана Станислава почести. Год назад стал пан Лем почетным доктором университета в Ополье. В прошлом году пришла награда за пропаганду польской литературы за границей. Недавно удостоил пана титулом почетного доктора Ягеллонский университет. Нравится пану Станиславу получать награды?*

На ложе смерти лежит 90-летний старец, к которому приходит, например, господин Сорос и говорит, что дает ему пять миллионов долларов. И что? И ничего. У старца нет даже сил утешиться. В конце концов, с чего ему радоваться? Что он может сделать с этими деньгами? Пригласить к себе стайку красивых женщин, которые будут обмахивать его опахалами? Давно имею титул почетного доктора, и, наверное, с меня хватит. Во времена ПНР получил почетного доктора во Вроцлавском университете, и там случилась со мной чудесная неожиданность, связанная с наградами. Была плохая погода. Я оставил совершенно грязную машину на гостиничной стоянке. Рано поднялся и вижу — машина сверкает. В регистратуре узнал, что это некий почитатель моих книг вычистил мне авто. Вот это, наверно, верх признания, которое может получить писатель от читателя. Несколько дней назад подобное приключение пережил на Краковском рынке. Подбежал ко мне какой-то пан и пробовал всучить огромную вязанку роз. Я был уверен, что он старается склонить меня к покупке. Оказалось, что хочет вручить мне розы в знак признательности.



**Станислав Лем (род. 1912 г., Львов) прозаик и эссеист. Окончил медицинский факультет Краковского университета. Выдающийся представитель научной фантастики, переведенный на 40 языков мира. Автор повестей «Астронавты», «Облако Магеллана», «Солярис», «Голос Пана», «Мир на Земле», «Фиаско», а также произведений «Философия случая», «Фантастика и футурология».**

Из Германии приходит много писем с просьбами об автографах и высылке двух цветных снимков. Двух: один для того, кто пишет, второй — для обмена на другие, лучшие автографы. Отвечаю, что у меня нет цветных фото. В конце концов, я не Софи Лорен. Из Франции наоборот приходят письма с просьбами, чтобы написал что-нибудь глубокое. В Польше пишут ко мне, на счастье, только дети, ибо у нас я известен как автор книг для детей. «Басни роботов» включены в школьный курс, для изучения в шестом классе.

*Но в последующих книгах пан Станислав упрекал детей. Требовал пан от них знакомства с последними достижениями науки, знаний в области теологии, философии, литературы. Как они на это реагируют?*

В Соединенных Штатах, например, не издано ни одной моей книги, которая не входит в циклы научной фантастики. «Сумма технологии» никогда там не появлялась. Книги сложные, требующие подготовки, внимания, сосредоточения, плохо продаются. В последнее время с просьбой о согласии на переводы некоторых моих книг обратились ко мне турки. Деликатно поинтересовался, что хотят издать, и предложил, чтобы начали с чего-нибудь простого. Но они ответили: мы, турки, — народ очень интеллигентный и способный. Можем начать с наиболее сложных вещей. Ответил им — согласен, пожалуйста. Зато все мои письма издали немцы.

*Читатель получит в руки собрание сочинений Станислава Лема и отыщет в них помимо прочего перемены отношения автора к человеку. Герои первых книг пана были победители, обладающие большими возможностями. Перед ними открыт весь мир. Откуда в то время бралась у пана Станислава такая оптимистическая вера в силу человека?*

Был молод, жизнь казалась прекрасной. Мир тогда был проще. С одной стороны был Советский Союз, с другой — Соединенные Штаты. Было известно, кто хороший, кто злой.

*Но горизонты мыслей пана Лема о человеке начинают темнеть уже в 60-х годах. В «Солярисе» зазвучали сигналы скептицизма. Герои переживают первые поражения.*

Мое значительное творчество началось с «Госпиталя изменений», книги, которая в целом не такая уж смешная. Действие происходит в годы Второй мировой войны, и расстреливают в ней кого удается. Ее не хотели издавать, потому что была повестью упаднической, не умещалась в рамки соцреализма. Тогда написал «Астронавтов», книгу, которую перевели на немецкий, а позднее — и на другие языки.

*Но это не объясняет, почему так радикально изменился образ человека в творчестве пана Станислава? Читая ваши книги, можно получить впечатление, что это история большого сомнения: от восторга перед возможностями человека до убеждения, что он — хищная обезьяна, которая отличается не столько культурой, сколько агрессивностью.*

Технологическая сторона нашей цивилизации постоянно развивается, идет вперед. Мы уже создали техносферу, но в моральном отношении наступает решительный регресс. Раньше видел все более оптимистично. Верил в мощь разума, в силу открытий. Очевидно, до времени. Не предвидел одного, что наука станет почти целиком подчинена коммерции. Большинство ученых работает по призванию, но и для того также, чтобы стать Нобелевским лауреатом. Поспешно оглашаются какие-то научные гипотезы, результаты исследования, только затем, чтобы опередить других и получить чем поскорее деньги на дальнейшую работу. Позже часто оказывается, что это были псевдооткрытия. Лучше всего оплачиваются, разумеется, исследования, которые касаются разработки новых видов оружия. Вывод напрашивается сам. Человек — это обезьяна, которая сумеет сделать найточнейшую бритву, чтобы перерезать горло другой обезьяне.

*Может быть после Лема трудно написать классическую повесть в жанре научной фантастики, как трудно сделать классический вестерн после серии антивестернов.*

Не могу скрыть, что в моих повестях посыпал выкроенную действительность юмором и гротеском, наподобие того, как торт посыпают сладкой пудрой. Кто-то в Германии написал обо мне, что научная фантастика была только моим нарядом, плащем Проспера, под которым укрыт скелет философии.

*И пан Станислав согласен?*

В определенном смысле должен согласиться. Предвидел не только определенные научные открытия, но также их общие результаты и последствия. Так было с виртуальной действительностью, в отношении которой с самого начала был скептиком. Стивен Хокинг, выдающийся физик, утверждает, например, что существует поливерсум, или множество космосов. Я когда-то в шутку написал, что существует мультиверсум. Теперь оказывается, что есть такая научная гипотеза. Человек пишет бог ведает что, а потом его спрашивают: откуда пан знал? Не знал, просто так мне пришло в голову. Никогда не садился к столу с заданием: а сейчас напишу что-нибудь очень глубокое. Писал то, что хотелось, не думая, что это мелко или глубоко. Сам дивлюсь, что немцы делают из меня философа. По мнению одних, я последователь Шопенгауэра, по мнению других мне ближе Шеллинг, которого я никогда в жизни не читал. В энциклопедии фигурирую как философ, а не писатель. Всегда был невидимкой. То, что писал на темы будущего, виртуальной действительности, киберпространства, клонирования, трактовалось несерьезно. А теперь оказалось, что подводная лодка, которой я был, начинает выходить на поверхность.

*У критиков всегда были проблемы с паном Лемом, потому что никому в литературе Лем не соответствовал.*

Тем не менее я был широко переводимым писателем. Мои книги вышли на 37 языках. Пользуясь классификацией советского времени, могу сказать о себе, что я — космополит. Интересуют меня судьбы человечества, а не отдельные религии. Нравится мне, правда, буддизм с его уважением ко всем живым существам, но лично я — агностик, чего не скрываю, и что в настоящее время будит у многих ужас.

*Говорит пан Лем о себе, что оптимист или понемногу и оптимист, и пессимист. Но ничего оптимистического от пана Станислава я не услышала.*

Оптимистично то, что после смерти властвует небытие. Странным делом было бы миллионы лет вглядываться в облик Пана Бога, зная, что и через следующий миллион миллионов лет все будет также. Большей скуки не могу себе вообразить. Мы не созданы для вечности. Но, с другой стороны, в небытие также никто не стремится.

*Интервью Ст. Лема корреспонденту польского журнала «Polityka» (№ 46, 1998). Печатается в сокращении.*

# «Нейродюбель» – ідэя Кулінковіча

У адрозненне ад прэзідэнцкай улады, каралеўская на Беларусі ўжо змянілася. 30 студзеня рок-каралі мінулага года (беларускамоўны гурт НРМ) перадалі вялікую крышталёвую карону рускамоўнаму «Нейродюбелю». Як гэтая падзея паўплывае на моўную сітуацыю на Беларусі, пакажа час. Але лідэр гурта «Нейродюбель» Аляксандр Кулінковіч лічыць сваю групу чыста беларускай, нягледзячы на рускамоўныя тэксты: «Я магу пісаць тэксты толькі на той мове, на якой я думаю. А, на жаль, думаць па-беларуску ні бацькі, ні школа, ні савецкае мінулае не навучылі. Тым больш, нельга ва ўмовах сённяшняй Беларусі адмаўляць у патрыятызме толькі зыходзячы з пазіцыі мовы».



Прапануем вам гутарку з рок-каралём Беларусі, лідэрам гурта «Нейродюбель» Аляксандрам Кулінковічам.

*— Што ты адчуў, калі прачнуўся каралём?*

— Поўную пустату. Гэта, канечна, смешна гучыць, але, калі Аляксандр Македонскі падышоў да Індыйскага акіяна, ён заплакаў.

*— А шкляная карона не ціcне?*

— Не, увогуле на галаву не налазіць.

*— Трэба адзначыць этапы вялікага шляху А.К. у мастацтве. Па-першае, Саша, колькі табе гадоў?*

— 27 будзе ў траўні, калі дажыву.

*— І калі ў юнага Сашы прачнулася любоў да рок-музыкі?*

— Гадоў, напэўна, у дзесяць мяне вельмі ўразіла нейкая з кампазіцыяў «Kiss». Я пачаў задумвацца. А гадоў напэўна ў дванаццаць мяне на гэтую справу пачаў пасоўваць усімі любімы калектыў «Beatles». Я зразумеў: хачу быць музыкантам, і буду калі-небудзь. Потым аднойчы, да майго сораму вельмі позна, дзесьці ў трынаццаць гадоў, пачуў гурт «Машина времени», і мяне так уразіла, што чалавек па-руску спявае так файна, такія выдатныя тэксты. І я падумаў, чаму я не магу так пісаць. Я ўзяў і напісаў песню, як мне тады здавалася.

*— Ты яе памятаеш? Як яна называлася?*

— Ды не, канешне, яна не захавалася, але гэта і неістотна. Папросту, мне спадабаўся гэты занятак. І потым пайшло. Быў сабраны першы склад майго гурта. Ён называўся «Swamp», у перакладзе з ангельскай — балота. Граць ніхто з нас не ўмеў. Гралі на рондалях, вывярках. У нас быў рухавік ад пральнай машыны, мы клалі яго ў вялікую выварку і ўключалі ў разетку, і ён выдаваў псіхадэлічныя гукі. Мы запісалі цэлыя тры песні і пасьпяхова распаліся.

*— А колькі гадоў існуе ўласна «Нейродюбель»?*

— 17 ліпеня «Н» споўніцца дзесяць гадоў. 17 ліпеня 89 года я прыдумаў «Н» як ідэю і сыграў першую песню. А цяперашні канцэртны склад існуе ўжо сем ці, нават, восем гадоў. Гэта Максім Паравой — гітара, Юры Навумаў — гітара, Стас Паплаўскі — бас-гітара, Максім Івашын — клавішы, Андрэй Сцепанюк — бубны.

*— І праз восем гадоў вы дайшлі да рок-кароны. Скажы, гэта так істотна атрымаць галоўны рок-прыз?*

— Так. Гэта вельмі цікавая рэч. Усе музыкі кажуць: цьфу, Рок-каранацыя, пляваць я на яе хацеў. Я таксама так казаў. Ну што там нейкая крышталёвая вазачка. Але, гэта адчуванне ўсё ж такі пэўнага прызнання. Усе ж такі, рок-карона ў нашай рэспубліцы, я лічу, галоўная рэальная рок-н-рольная ўзнагарода, і кожны рок-музыкант да яе імкнецца. Што б хто ні казаў, а рок-карону хоча атрымаць кожны. Мы яе атрымалі, і гэтае адчуванне — 15 хвілінаў славы на сцэне — незабыўнае...

**Магдалена Н.**

